# Ніва

 БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК 

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 45 (819) ГОД XVI БЕЛАСТОК 7 ЛІСТАПАДА 1971 г. ЦАНА 60 гр.


ЗЫХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ

## ГАСПАДАР — ГЭТА ПРАФЕСІЯ

Мы любім рэкорды. Яны нас захапляюць і хвалююць. Прыпамінаецца вось тэлевізійны рэпартаж. Дырэктары некаторых дзяржаўных гаспадарак сцвярджалі, што дабіліся яны па 40 — 50 і больш цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, а нават, як заявіў адзін з іх, яго мэта 100 цэнтнераў з га! Здаралася такое штосьці і ў нас, на Беласточчыне. Два гады таму назад 42 цэнтнеры з аднаго гектара ячменю намалаціў адзін з гаспадароў у Дубічах Царкоўных, нядаўна на старонках «Нівы» мы зноў чыталі пра рэкордны ўраджай — 50 цэнтнераў з 1 га!

Гэта аднак толькі рэкорды. Апетыты ваяводскіх улад у Беластоку, якія кіруюць сельскай гаспадаркай, пакуль што высока не сягалі. Яны хвалююцца за тое, каб на працягу цяперашняй пяцігодкі дабіцца на Беласточчыне сярэдняга ўраджаю на ўзроўні 22—25 цэнтнераў з аднаго гектара. Вось мэта. Яна далёкая ад агульнадзяржаўных і ваяводскіх рэкордаў, аднак яе вызначае не вельмі пацяшальны вопыт гаспадарання ў мінулых гадах. Задоўга і сярод сялян, і сярод установ, кіруючых сельскай гаспадаркай, закаранялася ўпэўненасць, што «гаспадарамі на гектарах» можа быць абы-хто — найчасцей той, каму па нейкай прычыне не ўдалося вырвацца з вёскі, каб асяліцца ў горадзе і стаць на месячную зарплату. Такім чынам звыш 15 тысяч гаспадарак, якіх плошча складае амаль 124 тысячы гектараў, ужо цяпер застаецца ў Беластоцкім ваяводстве без натуральных нашчадкаў. Найбольш іх, на жаль, у паўднёва-ўсходніх паветах: у Беластоцкім — 1830 і 20 тыс. га, Бельскім — 1634 і 12 тыс. га, Гайнаўскім — 1791 і 12,5 тыс. га, Сямяціцкім — 1363 і 12,7 тыс. га, Сакольскім — 1700 і 12 тыс. га.

На гэтых гаспадарках асталіся сяляне, якія ўжо закончылі 60-ты год жыцця. Трудна спадзявацца ад іх навейшых, выпрацаваных навукай метадаў гаспадарання. А без гэтых метадаў, без прагрэсу ў сельскагаспадарчай вытворчасці няма што думаць, каб гаспадары на Беласточчыне дабіліся нават гэтага, не рэкорднага 20—25-цэнтнеравага ўраджаю, які плануюць улады.

(Працяг на стар. 4)



*Беларускі арнамент.* *Фота: В. Барановскі.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 20 кастрычніка адбылася сустрэча сакратара ГП Янкі Зенюка і старшыні бельскага аддзела Аляксея Карпюка з харавым калектывам. Арганізацыйны кіраўнік хору Васіль Антыпюк, Уладзімір Раеўскі і іншыя прадставілі праблемы харавых самадзейнікаў. Асабліва вялікія цяжкасці ў Бельску выклікае арганізацыя транспарту на выезды з канцэртамі. А калі харавы калектыў не выступае, дык належна і не развіваецца.

■ 22 кастрычніка старшыню і сакратара ГП БГКТ Міхася Хмялеўскага і Янку Зенюка прыняў сакратар прапаганды ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Уладзіслаў Юшкевіч. Прадстаўнікі ГП паінфармавалі сакратара аб дзейнасці беларускага таварыства і аб яго напрамках працы перад VI з'ездам ПАРП. Таварыш Ул. Юшкевіч праявіў вялікае зацікаўленне працай БГКТ і запэўніў, што ваяводскі камітэт партыі і ён асабіста заўсёды будуць дапамагаць нашай арганізацыі ў вырашэнні ўсіх праблем.

■ Гурток БГКТ у Бялявічах (Беластоцкі павет) ужо даўно аплаціў складчыны за 1971 год. Зараз рыхтуецца ён да справаздачна-выбарнага сходу. (мс)



## ДЛЯ ДАБРА ДРУЖБЫ І АДЗІНСТВА

Хто з варшавян не ведае прыгожага палацыка на вуліцы Фоксаль, 10. Тут у эстэтычных, па-сучаснаму абсталяваных залах можна сустрэцца з выдатнымі людзьмі з Савецкага Саюза, праслухаць даклад аб дасягненнях савецкай навукі, эканомікі, культуры СССР, наведаць выстаўку прац савецкіх мастакоў, паглядзець добры фільм, пабываць на канцэрце савецкіх артыстаў, у добра ўкамплектаванай бібліятэцы пазычыць кнігу на мове любой з савецкіх рэспублік, выпіць у кавярні чай, напараны па-руску, адведаць зярністай слаўнай ікры і з'есці плоў па-татарску ці шашлык па-грузінску. І ўсюды вы сустракаецеся з сардэчнай ветлівасцю савецкіх людзей, якія тут працуюць. Словам, на Фоксаль, 10 у Варшаве знаходзіцца маленькая часцінка вялікага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Дом савецкай культуры ў Варшаве, бо аб ім ідзе гаворка, быў арганізаваны ў канцы 1962 года Саюзам савецкіх таварystваў дружбы і Таварыствам савецка-польскай дружбы па просьбе Таварыства польска-савецкай дружбы, польскіх грамадскіх арганізацый. Ён з'яўляецца замежнай установай, падначаленай Таварыству савецка-польскай дружбы, і як усё Таварыства савецка-польскай дружбы, так і яго Дом савецкай культуры ў Варшаве, сваю працу прысвячае садзейнічанню далейшаму развіццю і ўмацаванню брацкай дружбы і ўсебаковаму супрацоўніцтву паміж савецкімі і польскім народамі, абмену вопытам у сацыялістычным будаўніцтве СССР і ПНР, развіццю савецка-польскіх культурных сувязей, азнаямленню польскага грамадства з жыццём савецкіх народаў.

Дырэктар Дома савецкай культуры тав. Яўген Шыла інфармуе, што цяпер у СССР Таварыства савецка-польскай дружбы налічвае звыш 130 аддзелаў, якія аб'ядноўваюць больш трох тысяч калектыўных членаў у Беларускай, Украінскай, Грузінскай, Армянскай, Літоўскай і іншых савецкіх рэспубліках і многіх абласцях РСФСР. У Беларускай ССР, напрыклад, дзейнічае звыш 30 абласных, гарадскіх і раённых аддзелаў ТСПД.

Дом савецкай культуры ў Варшаве штодзень супрацоўнічае з Таварыствам польска-савецкай дружбы і іншымі арганізацыямі ў Польшчы не толькі ў сталіцы, але ва ўсіх ваяводствах

(Працяг на стар. 4)



*Сустрэча з актывам Таварыства польска-савецкай дружбы варшаўскага гарадского раёна Прага-Поўнач. Выступленне ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці дома культуры на Брудне.*

*Фота: М. Петшаковскі*

# ◆Падзеі ◆Здарэнні ◆Факты ◆Каментарыі ◆Весткі



## СВЕТ

### КІТАЙ — ЧЛЕН ААН

Генеральная Асамблея ААН прыняла 26 кастрычніка г.г. рэзалюцыю, якая аднаўляе законныя правы Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэтая ж рэзалюцыя прадугледжвае выдаленне з ААН і ўсіх яе органаў прадстаўнікоў чанкайшысцкага рэжыму.

Прыняццю гэтай рэзалюцыі праціўдзейнічалі Злучаныя Штаты, якія настойвалі на захаванне месца для чанкайшыстаў.

### СУСТРЭЧЫ Ў ПАРЫЖЫ

Сустрэчы, якія правёў Леанід Брэжнеў з Жоржам Пампіду, знайшлі вялікае зацікаўленне на цэлым свеце.

У ходзе гутарак Л. Брэжнеў інфармаваў Прэзідэнта аб унутраным становішчы і эканамічным развіцці СССР, аб яго знешнепалітычнай дзейнасці. Ж. Пампіду інфармаваў Л. Брэжнева аб развіцці Францыі і аб элементах яе знешняй палітыкі. Пры гэтым было канстатавана, што для развіцця Савецкага Саюза і Францыі вялікае значэнне мае эканамічнае, навукова-тэхнічнае і культурнае супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

У ліку міжнародных пытанняў былі разгледжаны некаторыя праблемы, якія датычаць Еўропы і еўрапейскай бяспекі. Пры гэтым выявіўся агульны пункт гледжання, які адлюстроўвае інтарэсы савецкага і французскага народаў.

### НОВАЕ ПАГАДНЕННЕ

У сталіцы Францыі падпісана пагадненне аб развіцці эканамічнага, тэхнічнага і прамысловага супрацоўніцтва паміж урадамі СССР і Францыі. Пагадненне заключана на 10 гадоў.

У пагадненні названы канкрэтныя галіны, у якіх намячаецца расшырыць супрацоўніцтва Савецкага Саюза і Францыі ў першую чаргу. Гэта, у прыватнасці, аўтамабільная і трактарная прамысловасць, станкабудаванне, будаўніцтва суднаў, выпрацоўка электраэнергіі, вытворчасць дакладных станкоў, электронавылічальнай тэхнікі, сувязь, металургія, здабыча нафты і газу, вугальная прамысловасць, горнарудная, лясная, хімічная, лёгкая прамысловасць — усе тыя галіны, у якіх ёсць перспектывы спрыяльнага развіцця супрацоўніцтва з улікам рэсурсаў і магчымасцей кожнай краіны.

### ДАДАТКОВАЯ ПАКУПКА

Прадстаўнікі Польшчы ў Берліне ў апошнім часе падпісалі дагаворанасць з адпаведнымі прадпрыемствамі ГДР на дадатковую пастаўку ў Польшчу, яшчэ ў гэтым годзе, 1338 легкавых аўтамабіляў Вартбург дэ люкс і стандарт.

Агулам у гэтым годзе з ГДР закупім 17.792 легкавыя машыны, з чаго 10.602 — гэта Трабанты, 7.190 — Вартбургі. Гэта найбольшая гадавая пастаўка легкавых аўтамабіляў з ГДР у Польшчу.

Зроблены першыя пакупкі ў Берліне на 1972 год. Гандлёвыя ўмовы прадбачваюць пакуль што пастаўку 3000 Вартбургаў і 2000 Трабантаў.

З Польшчы ў ГДР пастаўлена 4.500 Польскіх фіятаў — 125 П у гэтым годзе, а ў наступным вышлем іх 5000 штук. А. К.



## БССР

### НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА

Беларуская ССР, як і ўся краіна Саветаў, павышаным рытмам стваральнай працы сустракае 54-ую гадавіну Вялікага Кастрычніка. Прырост прамысловай вытворчасці за 9 месяцаў 1971 года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў на прадпрыемствах Беларусі 12 працэнтаў, а прадукцыйнасць працы павысілася на 8 працэнтаў. Трэба ведаць, што гэта высокія лічбы. Рабочыя і земляробы спаборнічаюць за датэрміновае выкананне заданняў і абавязацельстваў першага года 9-ай пяцігодкі. Паводле апошніх паведамленняў Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення БССР работнікі прамысловасці Беларускай ССР датэрмінова, 27 кастрычніка, завяршылі выкананне плана 10-ці месяцаў па рэалізацыі прадукцыі і вытворчасці важнейшых відаў вырабаў.

### ГОСЦІ З РУМЫНІІ І ЧЭХАСЛАВАКІІ

3 дні гасціла ў Мінску дэлегацыя партыйных работнікаў румынскай камуністычнай партыі. Румынскія таварышы вывучалі вопыт партыйнага кіравання ў галіне арганізацыі вытворчасці на прамысловых прадпрыемствах і ў будаўніцтве.

У БССР пабывала таксама (24—27 кастрычніка) група работнікаў дзяржаўных органаў Чэшскай і Славацкай сацыялістычных рэспублік. Госці агледзелі выдатныя мясціны беларускай сталіцы, пабывалі на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі БССР і зрабілі паездку па некаторых раёнах рэспублікі.

### ЯСІР АРАФАТ — У БРЭСЦЕ

Агенцтва БЕЛТА паведамляе з Брэста, што дэлегацыя палесцінскага руху супраціўлення на чале са старшынёй выканаўчага камітэта Арганізацыі вызвалення Палесціны Ясірам Арафатам, якая па запрашэнню Савецкага камітэта салідарнасці краін Азіі і Афрыкі прыбыла ў СССР, 24 кастрычніка наведала горад Брэст. Арабскія патрыёты агледзелі велічны мемарыял «Брэсцкая крэпасць — герой», усклалі кветкі ля Вечнага агню, а Ясір Арафат у кнізе ганаровых наведвальнікаў між іншым напісаў: «Брэсцкая крэпасць з'яўляецца гістарычнай школай гераізму і мужнасці для ўсіх пакаленняў...»

### СЯРОД КНІГ

Выйшла з друку чарговая кніга шматтомнага акадэмічнага выдання беларускага фальклору — «Радзінная паэзія». Тут сабрана і ўпершыню ў беларускай фальклярыстыцы класіфікавана велізарная колькасць самабытных твораў. Кніжку выдала «Навука і тэхніка».

### ТЭЛЕФЕСТЫВАЛЬ

У Беларусі праходзіць рэспубліканскі тэлефестываль народнай творчасці, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза. Кожная вобласць рыхтуе канцэрт. Лепшыя нумары складуць канцэрт ад БССР, які будзе перадавацца па Цэнтральным тэлебачанні. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### З ВЫСТУПЛЕННЯ ПРЭМ'ЕРА П. ЯРАШЭВІЧА

На пленарным пасяджэнні Сейма ПНР прэм'ер Пётр Ярашэвіч склаў справаздачу з рэалізацыі плана і бюджэту за 1971 год. Адзначыў ён, што наша нацыянальная гаспадарка развіваецца дынамічна і гарманійна. Паспяховае выкананне прынцыпаў VIII пленума ЦК ПАРП дазволіла лепш абяспечыць запатрабаванне грамадства, а дзякуючы гэтаму палепшыліся ўмовы жыцця ўсіх працоўных. Ужо зараз наглядаецца значны ўзрост даходаў людзей, перш за ўсё сялян і тых, што мелі дагэтуль найменшыя зарплаты. Папраўіліся ўмовы працы, аховы здароўя і адпачынку польскага грамадства. Разглядаецца праблема адносна страхавання сялян і сялянскіх сем'яў. За мінулыя дзесяць месяцаў гэтага года створаны дадатковыя месцы працы, перш за ўсё для моладзі. Асаблівая ўвага прысвячаецца таксама пабудове жылых дамоў. Варта адзначыць, што ў гэтым годзе даходы людзей узраслі да 55 мільярдаў злотых, гэта значыць на 10 працэнтаў у супастаўленні з даходамі ў мінулым годзе.

Разам з ростам даходаў людзей адпаведна павялічана колькасць тавараў на рынку, а таксама асартымент паслуг. У гэтым годзе на рынку было больш тавараў на агульную суму 42,5 мільярдаў злотых, чымсьці ў мінулым годзе. Спажывецкіх тавараў павялічылася на суму 18 мільярдаў злотых. Мяса і мясных вырабаў дастаўлена на рынак на 10 працэнтаў больш, чымсьці ў 1970 годзе. Задавальняючай справай з'яўляецца факт шпаркага ўзросту ў галіне гадоўлі свіней. Колькасць іх павялічылася зараз на 15 мільёнаў штук. У далейшым неабходна зрабіць усе намаганні, каб не дайшло да змяншэння пагалоўя свіней, нягледзячы на сёлеташні неўраджай кармавых.

— Наша краіна, — сказаў прэм'ер Пётр Ярашэвіч, — мае падставы да як найлепшага развіцця. Замацоўваецца клімат творчай працы. Шматлікія абавязацельствы працы грамадскім чынам і іх паспяховая рэалізацыя найлепш сведчаць аб адабрэнні палітыкі новага ўрада і новага кіраўніцтва партыі.

### ЗМЕНЫ Ў СКЛАДЗЕ ЎРАДА

Прэм'ер запрапанаваў адклікаць з займаваных пасад міністра культуры і мастацтва Люцыяна Матыку, міністра справядлівасці Станіслава Вальчака і міністра хімічнай прамысловасці Эдварда Заваду. Адначасова назначыў намесніка прэм'ера Мечыслава Ягельскага на пасаду старшыні камісіі планавання пры Радзе Міністраў (з захаваннем пасады віцэ-прэм'ера), Ю. Альшэўскага на пасаду міністра хімічнай прамысловасці і праф. Уладзіміра Бэрутовіча — на пасаду міністра справядлівасці.

### 9 МІЛЬЯРДАЎ ЗЛОТЫХ

На працягу 9 месяцаў гэтага года прададзена трактараў і камплектаў прычэпных машын на суму больш 9 мільярдаў злотых. Значную колькасць новых машын купілі сельскагаспадарчыя гурткі, якія на пакупку іх выдалі са сваіх фондаў 3940 мільёнаў злотых. Усіх трактараў прададзена ў гэтым годзе 19410 штук. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАРТКАНФЕРЭНЦЫІ

У мінулым тыдні адбыліся чарговыя партыйныя канферэнцыі — гарадская ў Беластоку, павятовыя ў Алецку, Ломжы, Бельску, Сямяцічах і Высокамазавецку.

У працы гарадской партканферэнцыі ўдзельнічаў міністр замежных спраў ПНР Стэфан Ендрыхоўскі.

З дакладам аб выкананні заданняў гарадской партарганізацыі ў перадз'ездаўскай кампаніі выступіў I сакратар гаркома Ю. Трусевіч. Потым дэлегаты сабраліся ў пяці спецыялістычных калектывах і правялі дыскусію, уносячы шэраг канкрэтных прапаноў.

Гарадская і павятовыя канферэнцыі выбралі дэлегатаў на ваяводскую партканферэнцыю, якая адбудзецца ў палове лістапада.

### У СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

На днях адбылася нарада прадстаўнікоў бранжавых аб'яднанняў сельскагаспадарчых гурткоў з партыйнымі ўладамі ваяводства і праўленнем ВЗКР. Бранжавыя аб'яднанні сельгасгурткоў аб'ядноўваюць большую частку сялян. Як правіла, гэта сяляне, якія ўвялі ў сваёй гаспадарцы выразны профіль спецыялізацыю. Іменна гэтыя сяляне будуць мець найбольшы ўдзел у выкананні задач, пастаўленых перад сельскай гаспадаркай дырэктывамі да VI з'езда партыі.

На нарадзе гаварылася аб умовах яшчэ большай спецыялізацыі і аб існуючых цяжкасцях у сельскай гаспадарцы.

### АБ ПГР-АХ

Аб павышэнні ролі ПГР-аў, аб загаспадараванні зямлі з дзяржаўнага фонду, аб паляпшэнні сацыяльна-бытавых умоў рабочых і наогул аб заданнях ПГР-аў у гэтай пяцігодцы гаварылася на пасяджэнні бюро камітэта па справах сельскай гаспадаркі. У 1971—75 гадах беластоцкія ПГР-ы атрымаюць 513 млн. злотых на механізацыю. Значна большая ўвага будзе звернута на гэтак званую малую механізацыю — механізацыю ў жывёлагадоўлі. Неабходна прааналізаваць профіль некаторых гаспадарак, каб ён быў адпаведны з натуральнымі умовамі асяроддзя. Больш увагі таксама трэба звярнуць на рэнтоўнасць прадукцыі.

Бюро па справах сельскай гаспадаркі ўнесла прапановы аб апрацоўцы канцэпцыйнага плана развіцця беластоцкай сельскай гаспадаркі і прадстаўленні яго цэнтральным уладам.

### СХОД У ГЕАДЭЗІСТАЎ

Справы далейшага развіцця нашай сельскай гаспадаркі былі тэмай партыйнага сходу ў ваяводскім бюро геадэзіі. Вядома, што справа камасацыі і спалучэння зямлі з дзяржаўнага фонду мае ў нашым ваяводстве велізарнае значэнне. У мінулай пяцігодцы была зроблена камасацыя ў 171 вёсцы і было спалучана 124 тыс. га зямлі з дзяржфонду. У гэтай пяцігодцы трэба спалучыць 154 тыс. гектараў. На сходзе гаварылася аб больш цесным супрацоўніцтве геадэзістаў з вясковым актывам.

### ГОСЦЬ З ГДР

26 кастрычніка ў Дуброве пабываў I сакратар пасольства ГДР у Польшчы Герхард Ройтэр. Ён сустрэўся там з актывам ПК ФАН, а таксама з моладдзю агульнаадукацыйнага ліцэя. (яч)




**Niedziela, 7. XI**

7.45 Program dnia. 7.50 Parada wojskowa i manifestacja z Placu Czerwonego w Moskwie z okazji rocznicy Wielkiej Rewolucji Październikowej. 9.15 Klub Śmiałych. 10.10 „Kanada" cz. I — rep. („W cztery świata strony"). 11.00 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I ligi: Legia — Polonia (Bytom). 11.45 Dziennik. 12.00 Sprawozdanie z II połowy meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I ligi: Szombierki — Zagłębie. 13.35 „Przemiany". 14.05 „Las polski jesienią". 14.25 „W obiektywie". 14.55 Dla dzieci: „Dzieci ludziom pracy". 16.00 Ludowa epopea — poszukiwanie załogi Italii" — film dok. radz. 17.00 „Beskidy" („Z ludowej szkatuły"). 17.30 „Ech Tania, Tania... czyli stare romanse i nowe piosenki". 18.10 PKF. 18.20 Estrada Literacka. 19.05 Przemówienie Ambasadora ZSRR z okazji Święta Rewolucji Październikowej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Z piosenką w Szczecinie" — program rozrywkowy. 21.20 Magazyn sportowy. 21.50 „Córeczka" — film TVP.

**Poniedziałek, 8. XI**

15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Bułgarska jesień" — film bułg. 18.25 Transmisja z Jubileuszowego Koncertu tygodnika „Stolica". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Czechow — „Wujaszek Wania". 22.20 Dziennik.

**Wtorek 9. XI**

10.00 Dla szkół (kl. IV) „Gniezno — pierwsza stolica Polski", 10.20 „Powszednie dni" — film fab. NRD cz. V, 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — Leon Kruczkowski — „Pierwszy dzień wolności", 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Jak powstaje mleko" 15.20 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka, 16.25 Program dnia, 16.30 Dziennik, 16.40 „Posłannictwo czy zawód", 17.10 „Oferty", 17.30 Ekran Młodych, 19.20 Dobranoc, 19 30 Dziennik, 20.05 „Powszednie dni" — film fab. NRD cz. V, 21.15 Gra Halina Czerny-Stefańska, 21.35 „8 dni w Warszawie" — rep. film., 22.05 Dziennik.

**Środa 10. XI**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Wróg metali", 9.30 „Adiutant jego ekscelencji" — film radz. cz. II, 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Ateny złotego wieku", 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „O ładunkach i siłach elektrycznych", 13.40 „Wybieramy zawód", 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka, 16.25 Program dnia, 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender", 17.20 PKF, 17.30 „Perspektywy techniki", 18.00 „Sylwetki X Muzy", 18.25 TV Kurier Warszawski, 18.40 „Koncepcje wychowawcze młodych Polaków", 19.20 Dobranoc, 19.30 Dziennik, 20.00 „Adiutant jego ekscelencji" — film radz. cz. II, 21.25 „Światowid", 21.55 „Wawel". 22 30 Dziennik.

**Czwartek 11. XI**

8.15 Matematyka w szkole: „Problemowe wprowadzenie twierdzeń matematycznych" cz. II, 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Homer „Iliada", 9.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Jan Matejko", 13.50 i 14.35 Mechanizacja Rolnictwa: „Układ smarowania silników spalinowych" cz. I, 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Chemia, 16.25 Program dnia, 16.30 Dziennik, 16.40 „Ekran z bratkiem", 17.40 Magazyn ITP, 17.55 „Poligon", 18,25 TV Kurier Kielecki, 18.45 „Śpiewa Halina Kunicka", 19 20 Dobranoc, 19.30 Dziennik, 20.00 „Przypominamy, radzimy", 20.10 Teatr Kobra: F. Durbridge — „W biały dzień" odc. I, 21.15 „Mieszkaniowe progi", 21.45 „Błazen" — program muzyczno-baletowy czechosł., 22.20 Dziennik.

**Piątek 12. XI**

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Intensywny opas młodego bydła", 10.00 „Nie ma ucieczki" — film fab. węg., 12.45 Dla szkół: (kl. II-III lic.) Przysposobienie obronne — „Postępowanie ludności w okresie zagrożenia", 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka, 16.25 Program dnia, 16.30 Dziennik, 16.40 „Pora na Telesfora", 17.45 Telereklama, 17.55 „Za kierownicą", 18.25 TV Kurier Mazowiecki, 18.45 „Coś z „Karuzeli", 19.20 Dobranoc, 19.30 Dziennik, 20.05 Film, 20.30 „Kraj", 21.10 Teatr TV: Kalidas — „Siakuntala", 22.20 Dziennik.

**Sobota 13. XI**

9.00 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Na polach uprawnych Ukrainy", 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Jamochłony", 10.30 „Teoria uwodzenia" — film fab. czechosł., 15.50 Program dnia, 15.55 Program I proponuje, 16.15 Redakcja Szkolna zapowiada, 16.30 Dziennik, 16.40 Dla młodych widzów: „Przedstawienie na arenie", 17.20 „Wydawnictwa proponują", 17.40 „Słonecznicy czyli astronomowie, którzy pracują w dzień" — film USA, 18.05 „Z kamerą wśród zwierząt", 18.35 „Tele-Echo", 19.20 Dobranoc, 19.30 Monitor, 20.20 „Non-Stop" — mag. rozrywkowy, 21.50 Dziennik, Wiadomości sportowe, 22.10 „Teoria uwodzenia" — film fab. czechosł.




**Piątek, 5 listopada**

8.05 Nowiny. 8.45 Film fab. dla dzieci. 15.00 Nowiny. 16.10 Film. 16.30 Program międzynarodowy. 17.00 Filmy animowane dla dzieci. 17.40 Film fab. 19.00 Czas. 19.30 TV teatr miniatur. 20 40 Teatr komedii. 22.00 Nowiny.

**Sobota, 6 listopada**

11.15 Szkatułka muzyczna. 11.30 Filmy animowane dla dzieci. 12.00 Film fab. dla dzieci. 13.10 Film animowany. 13.20 Film dokument. 14.55 Uroczysta akademia i koncert świąteczny. Transmisja z kremlowskiego Pałacu Zjazdów. 18.45 Czas. 19.15 Film fab. 20.15 Przy płomyku. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 7 listopada**

7.50 Defilada na Placu Czerwonym. 8.50 Defilada w Mińsku. 12.10 Film. 13.15 Film. 14.15 Filmy animowane. 14.45 Klub filmowy. 15.45 Koncert. 16.30 Film fab. 17.55 Salut świąteczny. 18.10 Czas. 19.00 Wieczór świąteczny w Ostankino.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 155




# Аляксей Русецкі

Днямі на запрашэнне часопіса «Твурчосць» наведаў Польшчу беларускі паэт, намеснік галоўнага рэдактара «Полымя» Аляксей Русецкі.

Аляксей Русецкі (Аляксей Буразялёў) нарадзіўся 4.XII.1912 года. Бацька будучага паэта загінуў на фронце на пачатку I сусветнай вайны. Пасля сканчэння сярэдняй школы Русецкі вучыўся ў ветэрынарным інстытуце ў Маскве.

Ад 1941 да 1947 года Русецкі знаходзіўся ў арміі. Прымаў непасрэдны удзел у барацьбе з Германіяй і Японіяй. Як паэт Русецкі дэбютаваў у 1935 г. Пасля вайны выйшлі ў свет наступныя яго кнігі: «У заўтрашні свет» (1951), «Святло акон тваіх» (1959), «Усход і Захад» (1962), «Яго Вялікасць» (1965), «Служба святла» (1967) і многа іншых.

Тэматычны дыяпазон паэзіі Русецкага вельмі шырокі. Задумваецца ён і над лёсам сучаснага свету і над лёсам чалавека. Захапляецца прыродай і каханнем. Вяртаецца ў свет дзяцінства і стараецца зазірнуць у будучае. Зрэшты, паслухайце некаторыя вершы Русецкага, яны ж скажуць пра аўтара праўду... і толькі праўду.

*Алесь Барскі*

* ✲ *

Гаснуць зоры ў подыху світання,
і раса з прысад ляціць у твар,
добры час вяртацца са спаткання,
абуджаць дашчаны тратуар!
Самы час цяпер, хоць на гадзіну,
задрамаць у чуйнай цішыні,
сніць вядомы ганак і дзяўчыну,
як цябе і я калісьці сніў.
Гаснуць зоры... Даўнія світанні
быццам зноў вярнуліся да нас;
дык не злуйся, што кінамеханік
зацягнуў да раніцы сеанс.

## ЦІШЫНЯ

*Мінуў стракаты шумны май;*
*павольнай хваляй ходзіць жыта,*
*цямнее луг, цямнее гай,*
*рачулка дрэмле пад ракітай;*
*дыміцца хмарка ў вышыні,*
*трымцяць паветраныя плыні,*
*раняе гукі ў цішыні*
*зязюля — наш лясны гадзіннік.*
*Вакол такі спакой, нібы*
*настаў вялікі адпачынак,*
*хоць недзе блізка час касьбы*
*і недалёка дзесь зажынак.*
*Але прыціхлая зямля*
*няспынна млее ўся ў гарэнні...*
*Так наспяваюць спакваля*
*здзяйсненні.*





## НАТХНЕННЕ

Зноў не лістком календара на стол
мой дзень апаў... Я каменю даў працай
сваё цяпло жывое год на сто:
ён дыхае, задумы зноў раяцца.
Упэўніўся — магу тварыць як след,
ад шчасця лёгка думаецца ў ночы,
штурхну акно — бліШчыць вялізны свет,
прыслухаюся — у сэрца мне грукоча.
Як скінулі пагоны, мы — майстры,
мы — творцы ў ім, з упартасцю той простай,
з якою можна долатам раскрыць
у мармуры свайго героя постаць;
знайсці спавіты цемраю ў зярне
зародак новы тых садоў вясёлых,
што некалі і ў нашай старане
пялёсткі поўдня атрасуць на долы,
накіраваць увесь палёт машын
аж па слядах агністых метэораў...
Зрок розуму — яму няма мяжы —
праменіцца ў нязведанае ўчора.
Ад атамных драбніц і да свяціл —
такі прастор — твары, сваё даследуй!
Для шчасця ўсіх бытуе безліч сіл
у родных землях, бездані Сусвету.

* ✲ *

У белым-белым ты ў закутак мой
зайшла і ціхай госцяй пасядзела,
здалася мне чаромхаю лясной,
цяпер табою поўны увесь пакой,
нібы й была чаромхаю ты белай...
I мроіцца мне родны кут лясны
і ты, як госця здаўняе вясны.

* ✲ *

*Жвір на следзе тваім,*
*абляцелае лісцё на следзе,*
*і хмурынкі з твае стараны,*
*самалёты і вецер*
*і палі, дзе блукаў,*
*пра цябе, непрыкаяны, думаў,*
*ты зрадніла са мною*
*пранізлівым сумам.*
*Ты ж не гэтак магла б*
*параднiць з маім сэрцам навекі*
*нават холаду полюс,*
*пяскі марсіянскіх барханаў,*
*працягні мне руку*
*цераз пушчы і рэкі,*
*каханая!*

* ✲ *

Уночы сёння вішні расцвілі,
і раніцою залатыя пчолы
лічылі ўжо сузор'і на галлі,
я слухаў іхні ціхі звон вясёлы.
Мы вішні тыя, любая, з табой
удаль вялі дарогаю калгаснай;
на ёй, калісьці грознай, франтавой,
з юнацтвам мы рассталіся заўчасна.
На ёй мы лёс і хараство зямлі
адстойвалі як звыклыя салдаты,
а сёння ўночы вішні расцвілі,
бялеюць, быццам воблакі прысады.
Мы ціха пройдзем у вячэрні час
услед за песняй каля вішань росных,
былым юнацтвам хай дыхне на нас
дарога наша ў будучыя вёсны.





# АПОВЕСЦЬ АБ ПАГРОМЕ ЯЦВЯГАЎ

*«...Сядзець бы вам каля кастроў,*
*Не ведаць розні, ані сваркі,*
*Шукаць для тостаў трапных слоў*
*I піць за дружбу поўнай чаркай...»*

Мімавольна прыходзяць на думку гэтыя словы Юркі Зубрыцкага з яго верша *«На возеры Памора»*, калі чытаем аповесць Рышарда Краські «КУМАТ», якую ў 1971 годзе надрукавала варшаўская Людовая выдавецкая спулдзельня.

Аўтар яе, вядомы на Беласточчыне журналіст, па адукацыі філолаг, асабліва заўзята займаецца даследаваннем мінулага сваёй роднай зямлі.

На гэты раз Рышард Краська пацікавіўся трагічным лёсам яцвягаў, пасля якіх асталіся толькі нешматлікія назвы азёраў, рэк і ўрочышчаў ды рэдкія абломкі іх матэрыяльнай культуры, якія выкопваюць археолагі.

Кім тады быў гэты люд? Найлепш адклікацца да гістарычных крыніц. У пятым томе *«Вялікай усеагульнай энцыклапедыі»* Дзяржаўнага навуковага выдавецтва чытаем: *«Яцвягі — вымерлы пруска-літоўскі люд. (...) Тэрыторыя Яцвежы ў XII—XIII стагоддзях распасціралася між Бебжай на поўначы ды азёрамі Мамры і Снярдвы і ракой Лэнг — на захадзе (...) Асновай утрымання яцвягаў былі: лоўля рыбы, гадоўля свіней, конікаў-тарпанаў, авечак ды земляробства. (...) Пад канец XIII стагоддзя Скоманд аб'яднаў цэлую Яцвежу, аднак было ўжо запозна, каб стварыць самастойную дзяржаву яцвягаў. Пачаўшы ад 1278 года, шматгадовыя напады крыжаносцаў давялі ў 1283 годзе да канчатковага заваявання і ў значнай меры да знішчэння яцвягаў, рэшткі якіх схаваліся на Літву, Русь, Мазоўша, а часткова былі пераселены крыжаносцамі ў Самбію, дзе яцвяжскія вёскі пратрымаліся да палавіны XVI стагоддзя...»*

Гэтую даўгаватую вытрымку з энцыклапедыі —як найбольш аб'ектыўнай і незалежнай крыніцы ведаў — прыводжу тут не без асноў. Хацеў бы асабліва звярнуць увагу на яе апошнія сказы, бо ў аповесці Рышарда Краські справа прадстаўляецца якраз наадварот. Галоўную «заслугу» ў знішчэнні яцвягаў ён прыпісвае не тэўтонскаму ордэну крыжаносцаў, а польскім — перш за ўсё мазавецкаму — плямёнам. А нават больш — знішчэнне гэтага каля 50-тысячнага люду паясняе ён гістарычнай неабходнасцю і дзяржаўнай рацыяй стану тадышняй феадальнай Польшчы.

Вось пад мястэчкам Бранск, там, дзе рэчка Бранка ўліваецца ў раку Нурэц, завязалася — чытаем у аповесці — рашаючая, здрадніцкая, бо бязвыхадная для яцвягаў бітва. *«...Баляслаў не супрацiўляўся загадам маладога палкаводца, пераможца ў сённяшняй бітве. Ён разумеў Лешка. У гэтым кургане ляжаў не толькі адзін Кумат, не толькі яго воі. Цэлую яцвежу тут паклалі. Ужо яна не паўстане пасля гэтага ўдару. (...) Было гэта ў 1264 годзе. А дваццаць год пасля яцвежскі народ, які сябе называў судавітамі, а літвіны ахрысцілі яго дайновамі, перастаў існаваць...»* (ст. 290).

Я не гісторык, дык не буду вырашаць, за кім тут праўда. Хачу спыніцца не на гістарычных, а на літаратурных якасцях аповесці «Кумат».

Па сваёй канструкцыі гэта прыгодніцка-шпіёнскі раман. Жанр у гісторыі літаратуры не новы, сваімі карэннямі сягае бадай што да гістарычных раманаў англійскага пісьменніка Вальтэра Скота. Трэба аднак адзначыць, што Рышард Краська патрапіў умела і творча выкарыстаць гэты вядомы літаратурны жанр для сваіх патрэб. Апісваючы складаныя прыгоды галоўнага героя аповесці, рыцара Добка, які не мечам; а спрытам ваяваў, апавядальнік — аўтар адначасова адлюстроўвае даволі падрабязна жыццё яцвягаў, іх штодзённы быт, іх палітычную, запозненую ў супастаўленні з палякамі, арганізацыю, іх вераванні і звычкі, дае характарыстыку паасобных родавых яцвяжскіх старэйшын, іх узаемных сварак і імкненняў захавання незалежнага існавання. З другога, з польскага боку мы таксама атрымоўваем даволі складаны малюнак феадальнага грамадства, сярод якога на першы план вылучаецца ў аповесці хітры інтрыгант і бязлітасны палітык, мазавецкі вяльможа Збылют. Дзеі разыгрываюцца ў вядомых на Беласточчыне мясцовасцях. Штораз чытаем пра Драгічын, Візну, Свенцк, Брэст, Гонёндз, Нараў, Буг, Белавежскую пушчу... На нашых вачах раскрываюцца тайны ўладання вялікімі масамі людзей, адкрываецца падшэўка палітыкі і эгаізм асобных вяльможаў. Здаецца, што час вярнуўся на сем стагоддзяў, і мы глядзім каляровы фільм аб жыцці нашых пра-пра-прапродкаў на нашай роднай Беласточчыне. Сумны гэта фільм. Ад яго пахне кроўю. I таму, калі канчаем чытаць кніжку Рышарда Краські, зноў хочацца закрычаць: «Сядзець бы вам каля кастроў, не ведаць розні, ані сваркі!» Што ж, гісторыю назад не павернеш.

Яшчэ слова аб мове. Аўтар яе крыху архаізуе, асабліва ў партыях дыялогаў. Гэта мае, мяркую, падкрэсліваць даўнасць, гістарычнасць аповесці. Толькі бяда ў тым, што калі параўняем лексіку і марфалогію моўных помнікаў («Багародзіца», «Святакрыжскія пропаведзі», судовыя прысягі) з таго часу, у якім разыгрываюцца дзеі аповесці, дык аказваецца, што Краськава архаізацыя з'яўляецца толькі аўтарскай фантазіяй. Але трэба ведаць, што аўтар на гэта мае поўнае права.

*Віктар Рудчык*

Найбольшую ў сваім жыцці псіхічную траўму пенсіянер Мануіл Хаджыкрасіміраў перажыў напярэдадні Новага года — якраз тады, калі ён ужо святкаваў вялікую перамогу ў барацьбе супроць аўторка, калі ажно ў пяці пісьмах яму афіцыйна паведамілі, што грамадзянскую думку ўважылі і што...

Аднак, пачнем па-парадку. Гісторыя пачалася з сумнага для Мануіла адкрыцця, што ўсе чатыры малочныя магазіны, размешчаныя ў радыусе не больш кіламетра ад яго дома, у аўторак зачынены. Выхадны! І ён, заслужаны пенсіянер, вымушаны ціскацца ў перапоўненых ранішніх трамваях, каб купіць малака ў іншых мікрараёнах горада. Мала таго, што яго старыя косці трашчалі ў трамвайнай даўцы, што пры пасадцы яго адпіхалі назад маладзейшыя, дык жа і сняданне для сямімесячнага ўнука спазнялася на цэлую гадзіну, і нявестка ўздыхала кожны раз з такім выразам твару, які ніяк не стымуляваў сямейнае ўзаемаразуменне.

# У барацьбе супраць аўторка

І Мануіл Хаджыкрасіміраў, як гэта часта бывае з пенсіянерамі, узяўся за пяро. Пачаў пісаць скаргі. Ва ўсе адпаведныя інстанцыі. У рэдакцыі газет. У Камітэт па заахвочванню нараджальнасці...

Павёў рашучую барацьбу супроць аўторка.

Мінула два месяцы.

І нарэшце наці пенсіянер атрымаў ужо вядомыя чытачу пяць пранумераваных і парафіраваных пісем, у якіх яму паведамлялася, што выхадны ў малочных магазінах яго раёна будзе зменены.

Мануіл бясконца ўзрадаваўся. У першы ж аўторак ён абышоў усе магазіны і,ззяючы ад шчасця, канстатаваў, што яны ўсе працуюць.

Мануіл святкаваў перамогу. Ён паціраў задаволена рукі і мурлыкаў сабе пад нос невядомую ўжо для маладога пакалення песеньку пра параход «Мажэсцік».

Ночку ён доўга і ўсхвалявана варочаўся ў ложку. Душа яго была перапоўнена!

А назаўтра...

А назаўтра ён абышоў усе чатыры малочныя магазіны і на кожных дзвярах убачыў па два вялікія замкі і па адной нанава напісанай прыгожай таблічцы: «Выхадны дзень — серада!»

*Дзмітр Васілеў*




— *А гэту спачатку вымыйце!*

## ПРЫНЦЫПОВЫ «МУЖЧЫНА»

На трамвайным прыпынку стаіць трынаццацігадовы хлапчук і курыць. Падыходзіць пажылая жанчына і гаворыць:

— А што сказала б твая мама, калі б убачыла, што ты курыш?

Хлапчук не разгубіўся:

— А што сказаў бы ваш муж, калі б убачыў, што вы прыстаеце да незнаёмага мужчыны?

Сёння — савецкі гумар









— *Калі ласка, перадайце на білецік.*

## ПРЫКЛАДНЫ МУЖ

— Абдымі мяне, — сказала жонка.

Абняў.

— Пацалуй.

Пацалаваў.

— А мне здалося, што ты мяне не любіш.

— Што ты! Для цябе я гатовы на любыя ахвяры.




Знайдзіце цыфры, якія скрываюцца пад графічнымі сімваламі. Падставіўшы цыфры, вы атрымаеце па гарызанталі і вертыкалі арыфметычныя дзеянні.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: 2 і 7.*

## КУТОЧАК АРХЕОЛАГА

У горадзе Крутагорску археалагічная экспедыцыя прыступіла да раскопак аднаго з сямі курганаў, што акружаюць горад. За вынятkам экскаватара № 03251 трэста «Крутагорскбуд», у кургане нічога не знойдзена.

## МОЙ РЭЦЭПТ

*Лечаць п'яніцу Міколу,*
*Кружаць лекары наўкола,*
*А ў яго няма паправы —*
*Выгляд сонны, выгляд млявы.*
*Есць за трох. Часамі здуру*
*Крыва гляне на мікстуру.*
*Уздыхне. Хіба ж ён здольны*
*Піць настой безалкагольны?*
*Дарагія лекары,*
*Чорт вас лысы пабяры!*
*Свой рэцэпт і свой дыягназ*
*Вы закіньце дзесьці ў багну,*
*Не пускайце абібока*
*Без работы ані кроку.*
*Хлеба лусту. Збан вады*
*І ні грама больш яды.*
*Справа пойдзе на папраўку —*
*Медыцыне ж будзе слава...*

*Станіслаў Шушкевіч*



— *Падай нож, я кавун унясу!*



— *Хутчэй бы ты канчаў рэвізаваць птушкаферму! Хочацца парасцінкай паласавацца.*

## У СВАІМ РЭПЕРТУАРЫ

Воўк, рысь і барс рашылі напасці на калгасную аўцаферму. Выбраўшы пацямней ночку, яны адправіліся на рыск. І раптам барс заўважыў, што побач з імі ідзе і ліса.

— А лісу ты навошта паклікаў? — запытаў ён ваўка.

— Сляды замятаць! — адказаў воўк.

*М. Сямёнаў*

## У ДОМЕ АДПАЧЫНКУ

— Паветра, сонца і вада — найлепшыя нашы сябры...

— ...І Юры Іванавіч, які вам усё гэта ўладкаваў!

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

# ЯК ПРАВЁЎ МЯНЕ ЦІМОХ

*Словы: А. Русака* *Музыка: М. Ларкова*
*Апрацоўка: К. Паплаўскага*

Як правёў мяне Цімох,
Ох, ох, ох,
Было цёмна на двары,
Ох, ох, ох.
— Ну, Цімошка, дык бывай!
Ай, яй, яй.
А ён кажа: «Пачакай, пачакай».

Хоць часіначку пастой,
Ой, ой, ой.
Пагаворым мы з табой,
Ой, ой, ой...

Я ж казаў не для пацех,
Эх, эх, эх.
Што люблю я не на смех, не на смех.
Сэрца стукнула ў грудзях,
Ах, ах, ах.
Яшчэ пойдзе на людзях,
Ах, ах, ах.
Не цалуй мяне, даль-бог!
Ох, ох, ох!
Адчапіся ты, Цімох,
Ох, о, хо, хо!




## У БЮРО ДАВЕДАК

— Добры дзень, шаноўная. Я прыезджы. Ці не скажаце мне, дзе месціцца славутыя адэскія катакомбы?

— Плаціце дзве капейкі.

— Калі ласка.

— Уваход у катакомбы месціцца ў сяле Нерубайскім.

— А дзе сяло Нерубайскае?

— Дзве капейкі. У Бяляеўскім раёне.

— А як туды даехаць?

— Дзве капейкі. Экскурсійным аўтобусам.

— А дзе ён спыняецца?

— Дзве капейкі. На Прывакзальнай плошчы.

— А дзе тая плошча?

— Дзве капейкі.

— Вы што, здзекваецеся з мяне? Я скардзіцца буду!

— Дзве капейкі.

— Няма ў мяне больш двух капеек. Я толькі адно хачу ў вас спытаць: што варта такая работа?

— Дзве капейкі.

## У ГРЭЦКІМ ПОРЦЕ

Адзін грэк убачыў савецкіх маракоў, якія зышлі на бераг, і кажа ім:

— Вельмі хачу з вамі паразмаўляць адкрыта. Гэта ў нас, у краіне свабоды, не забараняецца, і ніхто нас не будзе падслухоўваць, калі мы сядзем у лодку і адплывем на сярэдзіну Эгейскага мора...

## ЗДАГАДЛІВЫ ЎНУЧАК

Да бабулькі ў вёску прыехаў з горада ўнучак. Убачыўшы на двары карову, запытаўся:

— Бабулька, а колькі год гэтай карове?

— Два гады, унучак.

— А як ты даведалася?

— Па рагах.

— А, разумею, — у яе два рагі.

## НЕ ВІНАВАТЫ

— Калі ты нарэшце, Коля, выправіш сваю двойку па арыфметыцы? — запытаўся бацька ў сына.

— А як я магу выправіць, калі журнал знаходзіцца ў настаўніцы?




— *Вазьмі, тут роўна пяцьдзесят...*